Год выданьня 66. № 616, Жнівень - Верасень 2015 г. **Жыве Беларусь!**



# БЕЛАРУС




**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc.***

*Address:* **166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, NY 11432, USA**
*E-mail:* ***bielarus@bazahq.org***

***Шаноўныя чытачы!***

Вітаем вас на бачынках новага выпуску газэты за жнівень-верасень. Гэта апошні нумар сёлетняга лета. Час гэты не быў у беларускім грамадзкім жыцьці прыдатным для летніх вакацыяў. Адбываліся імпрэзы, іншыя меншыя і большыя падзеі. Пра некаторыя з іх вы знойдзеце інфармацыі ў газэце. Ёсьць добрыя і сумныя навіны. З апошніх бадай што самая важная і непрыемная - пра аб'яўлены афіцыйна намер Расеі размясьціць у Беларусі расейскую вайсковую авіябазу, цяпер чарга Лукашэнкі - падпісаць ці не падпісаць дамову? Выглядае, не варта спадзявацца, што ён адважыцца адмовіць Пуціну. А ў беларускага народу ніхто не зьбіраецца прасіць згоду. Але ніхто не можа адабраць у яго права пратэставаць супроць акупацыі краіны і не дапусьціць, каб Беларусь стала плацдармам для далейшых агрэсіўных плянаў Пуціна. Ці здолее сёньняшняе змардаванае доўгімі гадамі дыктатуры беларускае грамадзтва рэалізаваць гэтае права і аказаць супраціў, задэманстраваць сваю волю, паказаць, хто ў краіне сапраўдны гаспадар?

Адказу на гэтае пытаньне нам у замежжы трэба не толькі пасыўна чакаць, але і самім па магчымасьці прыняць удзел у пратэстах.

Вяртаючыся да нашых собскіх справаў, хацелі б нагадаць нашым чытачам, што 20 верасьня вашай - нашай газэце "Беларус" спаўняецца 65 гадоў. Паважны юбілей! Наступны нумар будзе прысьвечаны гэтай падзеі, давайце падрыхтуем яго разам, дасылайце віншаваньні, крытыку, пажаданьні, падтрымку, чэкі, ды прыйдзіце на адмысловую імпрэзу ў Беларускім цэнтры на Атлянтык Авэню 401 у кастрычніку.

***Рэдакцыя***




## Заява рады БНР:

# Расейская вайсковая база — пагроза незалежнасьці Беларусі

***З такой заявай выступіла Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў сувязі з тым, што Уладзімір Пуцін падпісаў загад аб стварэньні ў Беларусі расейскай вайсковай авіябазы***

Рада БНР падкрэсьлівае, што зьяўленьне расейскай вайсковай базы будзе перашкодай для перадоленьня міжнароднай ізаляцыі Беларусі.

У заяве адзначаецца, што акалічнасьці незаконнай расейскай анэксіі ўкраінскага Крыму дэманструюць гатовасьць Крамля выкарыстоўваць свае замежныя вайсковыя базы супраць краінаў, якія дапусьцілі зьяўленьне гэткіх базаў на сваёй тэрыторыі. У сувязі з гэтым Рада БНР канстатуе, што стварэньне расейскай вайсковай базы істотна падвысіла б пагрозу для незалежнасьці Беларусі і дало б пуцінскаму рэжыму важны рычаг узьдзеяньня на Беларусь.

У Заяве гаворыцца:

"Дазваляючы стварэньне расейскай авіяцыйнай базы на тэрыторыі Беларусі, афіцыйныя ўлады спрыяюць падвышэньню наступальнага патэнцыялу пуцінскай Расеі, супрацьпастаўляючы Беларусь іншым краінам нашага рэгіёну і эўраатлянтычнай супольнасьці ў цэлым".

На дадатак да вышэйсказанага Рада БНР падкрэсьлівае, што, ня будучы легітымным прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь ад 1996 году, Аляксандар Лукашэнка ня мае юрыдычнага права прымаць рашэньні ад імя Рэспублікі Беларусь, як ня мае гэтага права і сфармаваны насуперак закону і дэмакратычным нормам так званы «Нацыянальны Сход Рэспублікі Беларусь».

Рада БНР зьвяртае ўвагу на тое, што стварэньне замежнай вайсковай базы на тэрыторыі Беларусі наўпрост супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якой замацаванае імкненьне да нэўтральнага статусу нашае краіны.




Рада БНР канстатуе, што міжнародная палітыка цяперашніх афіцыйных уладаў Рэспублікі Беларусь, якая працягвае грунтавацца на гандлі беларускім сувэрэнітэтам узамен на эканамічнае і палітычнае спонсарства з боку Крамля, чарговы раз дэманструе сваю беспасярэднюю небясьпеку для беларускай дзяржаўнасьці і прамую супярэчнасьць інтарэсам беларускага народу, а таксама інтарэсам міжнароднай бясьпекі.

Рада БНР зьвяртаецца да падпісантаў Віленскага мэмарандуму, а таксама да іншых беларускіх палітычных дзеячаў, якія стаяць на пазыцыях дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі, з заклікам усімі сіламі супрацьстаяць стварэньню замежнай вайсковай базы на тэрыторыі Беларусі.

Рада БНР заклікае ўрады ўсіх прыязных Беларусі краінаў аказаць дыпляматычны ціск на цяперашнія афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь, каб прадухіліць стварэньне базы вайскова-паветраных сілаў пуцінскай Расеі на тэрыторыі Беларусі, якое б ставіла пад дадатковую пагрозу мір і бясьпеку ў Эўропе.

*22 верасьня 2015*



### На будаўніцтва авіярамонтнага завода пад Менскам выдаткавалі 85 мільярдаў рублёў

Адпаведная пастанова №777 прынятая Саветам міністраў 17 верасня.

Міністэрству фінансаў у 2015 годзе за кошт астатку сродкаў інавацыйнага фонду Міністэрства транспарту і камунікацый даручана ўнесці ў якасці грашовага ўнёску Рэспублікі Беларусь у статутны фонд ААТ «Мінскі завод грамадзянскай авіяцыі №407» 84 млрд 957 млн рублёў.

Гэтыя сродкі прызначаныя для фінансавання першай чаргі будаўніцтва авіярамонтнага завода.

Мінтрансу супольна з Дзяржкаммаёмасцю даручана забяспечыць развязанне пытанняў, звязаных з перадачай ва ўласнасць Беларусі акцый, выпушчаных у сувязі з павелічэннем статутнага фонду Менскага завода грамадзянскай авіяцыі №407.

Узнікае пытаньне, ці не зьвязана гэтая пастанова з расейскімі вайсковаю авіябазаю ў Беларусі, хаця гэта і завод па рамонту грамадзянскай авіяцыі? Напэўна, на гэтае пытаньне могуць адказаць толькі спецыялісты, але задумацца варта.

*Паводле сайту Charter 97*
*19.09.2015*

# Заява Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня супроць намеру Расеі размясьціць сваю вайсковую базу ў Беларусі

Беларуска-Амерыканскае Задзіночаньне глыбока ўстрывожанае намерамі расейскага ўрада заснаваць вайсковую авіябазу ў Беларусі. Пастаянная вайсковая прысутнасьць Расеі ў Беларусі стане непасрэднай і ўяўнай пагрозай незалежнасьці, суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасьці краіны. У больш шырокім кантэксце, расейская база адмоўна адаб'ецца на рэгіянальнай бясьпецы, якая ўжо зараз знаходзіцца ў стане глыбокага стрэсу ў выніку анэксіі Крыма і ўзброенага канфлікту на усходзе Украіны – абодва канфлікта інспіраваныя непасрэднымі дзяньнямі ўрада Расеі.

Некалькі фактараў робяць вайсковую базу Расеі ў Беларусі катэгарычна непрымальнай:

1. Гэта супярэчыць Канстытуцыі Беларусі, якая ставіць за мэту зрабіць тэрыторыю краіны свабоднай ад ядзернай зброі, а дзяржаву – нейтральнай.

2. Аўтарытарны рэжым Аляксандра Лукашэнкі не мае міжнароднай легітымнасьці, каб прымаць такія рашэньні ад імя дзяржавы і грамадства.

3. Выкарыстаньне Расеяй сваёй ваеннай прысутнасьці для акупацыі Крыма даказвае, што Масква разглядае ваенныя базы, як інструмэнт пры парушэньні тэрытарыяльнай цэласнасьці іншых краінаў.

4. Праз заснаваньне вайсковай базы Расея ўцягвае Беларусь у патэнцыйны ўзброены канфлікт на дэканструктыўным баку гісторыі – у якасьці пляцоўкі для правядзеньня незаконных аперацый агрэсіўнай дзяржавы.

5. Агрэсія Масквы супраць Украіны і паводзіны запалохваньня ў дачыненьні да іншых суседзяў даказвае, што Расеяя праводзіць палітыку, несумяшчальную з нормамі міжнароднага права.

Задумка Крамля заснаваць вайсковую базу ў Беларусі не з'яўляецца звычайным захадам па ўмацаваньню супрацоўніцтва ў галіне бясьпекі паміж дзвюма дэмакратычнымі дзяржавамі. Гэта – спроба агрэсіўнай сілы з засьведчанай практыкай пагарды да міжнароднага права ўсталяваць праз запалохваньне кантроль над суверэннай Беларусьсю і высунуць наперад сваю ваенную інфраструктуру далей углыб Усходняй Эўропы.

Зараз найбольш падыходзячы момант для таго, каб спыніць Расею ад таго, каб яна зрабіла шкоду Беларусі і міжнароднай бясьпецы праз усталяваньне ваеннай базы, якую народ Беларусі да сябе не запрашае і не жадае ў сябе бачыць.

Мы заклікаем урад Злучаных Штатаў паспрыяць таму, каб папярэдзіць падпісаньне і рэалізацыю гэтага незаконнага, антыбеларускага пагадненьня паміж Беларуссю і Расеяй. Гэтая дамова наўпрост прывязаная да вайны Крамля супраць Украіны. Яе выкананьне пагоршыць ужо зараз нестабільную сітуацыю ў рэгіёне.

Упэўненая і рашучая рэакцыя Злучаных Штатаў патрэбная неадкладна, каб нейтралізаваць любую магчымасьць таго, што нікім некантраляваныя аўтарытарныя кіраўнікі Беларусі і Расіі заключылі пагадненьне, якое супярэчыць Канстытуцыі Беларусі і пагражае міжнароднаму міру і бясьпецы.

*26 верасьня 2015 года*



***Шаноўныя сябры! Бруклінскі аддзел БАЗА запрашае вас далучыцца да новастворанай інфармацыйна-кантактнай старонкі ў Facebook: "BAZA - афіцыйная старонка". На ёй вы знойдзеце навіны, падзеі і кантакты беларускай дыяспары ў Нью-Ёрку.***

*Стваральнік і рэдактар старонкі – Сьвятлана Казачок, якая з'яўляецца сябрам і прадстаўніком Бруклінскага аддзелу БАЗА.*

# Рада БНР патрабуе рэабілітацыі былых палітвязьняў і дэмакратызацыі Беларусі

***Рада Беларускай Народнай Рэспублікі зрабіла заяву з нагоды вызваленьня 22 жніўня шасьці палітвязьняў:***

«Рада Беларускае Народнае Рэспублікі вітае вызваленьне ўладамі Рэспублікі Беларусь палітычных вязьняў, у тым ліку Міколы Статкевіча, Юрыя Рубцова, Ігара Аліневіча, Яўгена Васьковіча, Мікалая Дзядка і Арцёма Пракапенкі. Вызваленьне палітвязьняў было адным з фундамэнтальных патрабаваньняў Рады БНР да ўладаў Рэспублікі Беларусь на працягу мінулых гадоў.

Разам з тым, Рада БНР заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь да далейшых крокаў па нармалізацыі палітычнае абстаноўкі ў краіне. У прыватнасьці, Рада БНР зьвяртае ўвагу на неабходнасьць наступных захадаў:

1. Поўная юрыдычная рэгабілітацыя былых палітычных вязьняў, вызваленых цяпер і перад гэтым, дзеля прадстаўленьня ім магчымасьці паўнавартаснага заняцьця грамадзкай і палітычнай дзейнасьцю^;

2. Стварэньне ў Беларусі перадумоваў для правядзеньня паўнавартасных свабодных і справядлівых выбараў, пасьля чаго правядзеньне ў адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусі і міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі перавыбараў ва ўсе органы дзяржаўнай і мясцовай улады;

3. Гарантаваньне грамадзянам Беларусі ўсіх дэмакратычных правоў і свабодаў, замацаваных у тым ліку ў дзеючым заканадаўстве Рэспублікі Беларусь.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць, у тым ліку краіны Эўрапейскага Зьвязу і Злучаных Штатаў Амэрыкі, надалей рашуча патрабаваць дэмакратызацыі ў Беларусі і аказаць Беларусі ўсю магчымую падтрымку дзеля ажыцьцяўленьня пераходу да дэмакратычнага дзяржаўнага ладу.

Спасылаючыся на сваю заяву ад 7 ліпеня 2015 г., Рада БНР нагадвае, што, зважаючы на сукупнасьць фактаў, надыходзячыя выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ужо цяпер ня могуць лічыцца свабоднымі і дэмакратычнымі».

*24.08.2015*

***33-гадовы беларус Алесь Чаркашын з добраахвотніцкага украінскага корпусу «Правага сектара» памёр ад ранаў. 10 жніўня ён быў цяжка параненым ў баі пад Белакаменкай у Данбасе і памер у шпіталі ў Запарожжы пасьля некалькіх тыдняў комы.***



# "Ён заўжды змагаўся за справядлівасьць"

У Беларусі Алесь удзельнічаў у нацыянальным руху. Напрыканцы 1990-ых - пачатку 2000-ых ён быў сябрам спартыўна-патрыятычнай арганізацыі «Край». Пасля з'яўляўся актывістам «Зубра». У 2009 годзе ён прыйшоў у «Беларускую хрысціянскую дэмакратыю», стаў каардынатарам аргкамітэта для стварэння партыі ў Берасці.

Алесь Чаркашын паехаў змагацца за Беларусь ва Украіну, далучыўся да добраахвотніцкага атраду амаль ад самога пачатку баявых дзеяньняў. Ва Украіне ён вучыўся ў Хэрсоне ў Біблейскім інстытуце. На вайне стаў капэлянам добраахвотнікаў. Чаркашын быў перакананы, што вернік павінен сумяшчаць веру і палітыку. Вось што ён казаў пра гэта ў інтэрв'ю:

«Для мяне Бог, стасункі з ім, стасункі з братамі і сёстрамі ў царкве значна важнейшыя. Але я жыву ў гэтай краіне, і мне не ўсё адно, што тут адбываецца. Я люблю сваю краіну, я люблю гэтых людзей. І, вядома ж, мне хочацца жыць у больш свабоднай краіне. Таму і як хрысціянін, і як грамадзянін я актыўны. Больш гэта, цэрквы павінны пускаць Бога ў дзяржаўны апарат, каб потым не казаць, што гэта брудная справа».

У лютым гэтага года, пасля смерці некалькіх паплечнікаў, Алесь Чаркашын падняў у Пясках белчырвона-белы сцяг, як сымбаль агульнай волі.

Алесева сяброўка Іна, якая была каля яго да апошняй хвіліны жыцьця, так выказалася пра Алеся:

"Гэта быў мірны чалавек, які загінуў за ўсіх нас. Не зважаючы на тое, што ён беларус, ён усіх любіў — і Украіну, і Беларусь, усіх людзей любіў. Ён заўжды змагаўся за справядлівасьць".

Беларусы ў ЗША арганізавалі збор грошай дзеля аказаньня дапамогі бацькам Алеся Чаркашына.

# Адзіныя візы ў Беларусі і Расеі?

***Стварэнне адзінай візавай прасторы Беларусі і Расеі магчымае ў найбліжэйшай будучыні.***

Са слоў старшыні камітэта Савета Федэрацыі РФ у міжнародных справах Канстанціна Касачова, стварэнне адзінай візавай прасторы Беларусі і Расеі магчыма ў найбліжэйшай будучыні, бо гэта адпавядае інтарэсам будаўніцтва «саюзнай дзяржавы». Пра гэта расейскі сенатар заявіў на Другім форуме рэгіёнаў Беларусі і Расеі ў Сочы, паведамляе ТАСС.

«У выпадку прыняцця гэтай пастановы для наведвання нашых краін грамадзянам трэціх дзяржаў спатрэбіцца адна, а не дзве візы», - падкрэсліў Касачоў.

Кіраўнік камітэта СФ запэўніў, што верхняя палата расейскага парламента возьме візавую тэму пад асаблівы кантроль.

*Паводле сайту Charter 97*
*17.09.2015*

*На пачатку верасьня кіраўніцтва Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня (БАЗА) накіравала пісьмовы зварот да кангрэсмэнаў Даны Рабакера і Грэгары Мікса, якія наведалі Беларусь сёлета ў жніўні. Падчас першага за многія гады візыту на такім узроўні кангрэсмэны асабіста сустракаліся з Аляксандрам Лукашэнкам.*

# Зварот да кангрэсмэнаў ад Галоўнай управы БАЗА

Пасьля вяртаньня ў ЗША кангрэсмэны 26 жніўня накіравалі ліст падзякі Лукашэнку, у якім, у прыватнасьці, гаварылася: „Мы выказваем глыбокую падзяку за той час, што Вы правялі з намі падчас нашага нядаўняга візіту ў Вашу краіну. Наша гутарка была прамой і канструктыўнай. Нам асабліва прыемна было пачуць аб тым, што Вы памілавалі некалькі вядомых асобаў, што знаходзяцца ў апазіцыі да Вашага ўрада". Далей кангрэсмэны заявілі пра намер запатрабаваць ад дзяржсакратара Керы неадкладнага аднаўлення дыпламатычных адносінаў з Беларусьсю ў поўным аб'ёме, уключаючы абмен пасламі. Яны выказалі надзею на далейшае асабістае супрацоўніцтва з Лукашэнкам.

Кіраўніцтва БАЗА нагадала кангрэсмэнам, што Лукашэнка знаходзіцца ва ўладзе больш як 21 год, і з часу яго абраньня ні адны наступныя выбары не прызнаваліся сусьветнай супольнасьцю сумленнымі і свабоднымі. У звароце ўтрымліваецца заклік да амерыканскіх кангрэсмэнаў пры далейшым узаемадзеянні з беларускім рэжымам патрабаваць поўнай рэабілітацыі былых палітзняволеных і неадкладнага расьследаваньня справаў аб зьнікненьні палітыкаў і журналіста ў 1999-2000 гадах.

*Вячаслаў Бортнік*

# Апазыцыя ў Беларусі байкатуе выбары

***Апазіцыйныя структуры прынялі заяву аб сваім няўдзеле ў выбарчым фарсе.***

Аўтары заявы канстатуюць, што ў Беларусі няма сумленных і справядлівых выбараў, таму што дзяржава абмяжоўвае магчымасьці палітычнай дзейнасьці грамадзян, асноўныя СМІ, у тым ліку тэлевізія, манапалізаваныя дзяржавай і сталі «інструмэнтам прапаганды на карысьць аднаго чалавека».

«Мы заяўляем пра свой няўдзел у выбарчым фарсе і нагадваем грамадзянам Беларусі аб іх праве, якое замацаванае ў артыкуле 65 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, асабіста вызначаць, удзельнічаць ім у галасаванні ці не», - сказана ў заяве.

Акрамя таго, аўтары тэксту патрабуюць правядзення ў Беларусі свабодных і сумленных выбараў паводле стандартаў АБСЕ, якія адновяць давер людзей да дзяржавы, «выведуць краіну з эканамічнага і палітычнага тупіка і створаць магчымасць для цывілізаванага дэмакратычнага развіцця».

Заява прынятая паводле вынікаў круглага стала «Выбарчая кампанія - 2015: ацэнкі і высновы», які адбыўся 10 верасьня ў офісе Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Свае подпісы пад ім паставілі паэт і лідар стваранага руху «За дзяржаўнасць і незалежнасьць Беларусі» Уладзімір Някляеў, старшыня АГП Анатоль Лябедзька, экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ірына Вештард, кіраўніца аргкамітэта для стварэньня беларускай жаночай партыі «Надзея» Алена Яськова, намеснік старшыні АГП Леў Марголін, намеснік старшыні аргкамітэта для стварэння Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) Алесь Арастовіч, сустаршыня аргкамітэта для стварэньня партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі, сябра палітрады АГП Віктар Карняенка і грамадзкі актывіст Вацлаў Арэшка.



***Апошні тыдзень сёлетняга верасьня стаўся надзвычай адметным для Нью-Ёрку. Акрамя візыта Папы Францыска адзначаўся 70-гадовы юбілей Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. З нагоды юбілея праводзілася паседжаньне 70-й Асамблеі ААН і іншыя значныя форумы.***




Непасрэдны ўдзел ва ўрачыстасьцях бралі кіраўнікі блізу 160 краінаў. Вядома, такая нагода дала магчымасьць розным нацыянальным аб'яднаньням у Амэрыцы правесьці акцыі

# Лукашэнку ў Нью-Ёрку сустракалі плакатам «Свабоду Беларусі»






Беларуская дэлегацыя ў ААН

пратэсту. Шмат краінаў і народаў маюць падставу пратэставаць і зьвяртаць увагу сусьветнай супольнасьці на іх праблемы.

Са сваімі праблемамі прыйшлі на плошчу перад будынкам ААН 27-28 верасьня і беларусы Амэрыкі. У Нью-Ёрк прыехалі Пуцін і Лукашэнка, абодва выступілі з дэмагагічнымі прамовамі з трыбуны ААН. Менавіта ў іх адрас былі скіраваныя прамовы, лозунгі на мітынгу. Беларуская грамада на сваіх лозунгах дэманстравала пратэст супроць дыктатуры Лукашэнкі, патрабавала свабоды і дэмакратыі для Беларусі, пратэставала супроць расейскіх вайсковых базаў на беларускай зямлі, выказвала падтрымку братняму ўкраінскаму народу ў ягоным змаганьні супроць расейскай агрэсіі.






# "Дзень чорнай стужкі" ў Атаве



У нядзелю 23 жніўня 2015 беларусы Атавы бралі ўдзел у праграме адзначэньня Міжнароднага дня памяці ахвяраў савецкага камунізму і нацызму "Дня чорнай стужкі".

Асноўныя мерапрыемствы адбываліся ў St. John the Baptist Ukrainian Catholic Shrine.

Беларусаў прадстаўляў д-р Пётра Мурзёнак, ён прачытаў Малітву за беларускі народ.




# Планета ваўкоў

Як сёньня выглядае, фэнтэзы-фільм "Планета малпаў" не ёсьць найгоршым магчымым варыянтам нашай будучыні. Чалавецтва можа стацца здабычаю больш агрэсіўнага зьвера - ваўка. Малпы ўсё ж бліжэй да чалавека, не зьяўляюцца такімі драпежнымі і крыважэрнымі, а харчуюцца пераважна бананамі ды іншаю вегетарыянскаю ежаю. Натура ваўка значна больш небясьпечная і яна цяпер ужо паказвае нам зубы. Прапуцінскія "Начныя ваўкі" пакуль што толькі сымбалізуюць небясьпеку. Але, рэальная пагроза ўжо дае па сабе знаць.

Залдастанаўскія "Начныя ваўкі" выяўляюць у поўнай меры сутнасьць агрэсіўных дзеяньняў Расеі супроць амаль ужо паловы сьвету. А у першую чаргу — супроць хрысьціянскага сьвету, супроць эўрапейскай цывілізацыі, да якой належыць як сама Эўропа, так і Амэрыка. Менавіта яны сёньня прапагандуюцца, як галоўныя ворагі Расеі, ім Пуцін пагражае ядзернай бомбаю.

Сёньняшняя вайна ва Украіне, гэта вайна паміж дзвума пераважна хрысьціянскімі краінамі. Вядома, што гэта не першая збройнае змаганьне між хрысьціянамі. Абедзьве сусьветныя войны адбываліся пераважна з удзелам краінаў адной гэтай цывілізацыі. Але, тады супроць Гітлера паўсталі бальшыня краінаў сьвету і зло было пераможана.

Цяпер сытуацыя іншая. У сваім заўзятым змаганьні з эўрапейскай цывілізацыяй Пуцін фактычна салідарызуецца з радыкальным ісламізамам, які імкліва набірае моц і жорстка распраўляецца з хрысьціянамі. Не без падставаў можна меркаваць, што лідэры гэтага руху з задавальненьнем назіраюць за збройным канфліктам у Эўропе: забівайце адзін аднаго і дапамагайце тым самым нашай перамозе.

З-за наступу радыкалаў на Усходзе і інш. войнаў эўрапейскія краіны маюць цяпер вялізныя праблемы з некантраляваным шматтысячным наплывам эмігрантаў. У выніку Эўропа і ЗША заместа таго, каб скіраваць сілы на супрацiў агрэсіі ісламскага радыкалізму, у чым маглі б пры цьвярозым падыходзе разьбіхацца і на дапамогу Расеі, вымушаны таксама займацца сытуацыяй ва Украіне і нелегальнай эміграцыяй. Гэта аслабляе заходні блёк і тым самым можа спрыяць узмацненьню пагрозы. А далей, хто ведае, ці не аб'яднаюцца гэтыя дзьве агрэсіўныя сілы - Расея і радыкальны ісламізм у вайне супроць агульнага ворага - заходняй цывілізацыі. Тады і могуць запанаваць воўчыя законы на цэлай нашай планеце.

*Ігар Міронччык*
*Каліфорнія*

17 верасьня ў Варшаве роўна апоўдні ў варшаўскім музэі Цытадэль ў прысутнасці прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды і прэм'ер-міністаркі Эвы Копач быў адкрыты музей аб 21 000 палонных польскіх афіцэраў, расстраляных у Катыні ў Савецкім Саюзе 75 гадоў таму. Са слоў прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды, катынскае злачынства, мэтай якога

# У Варшаве адкрылі Катынскі музей



Катынскага злачынства, ён будаваўся тры гады і яго экспазіцыі няма роўных у сьвеце.

Потым былі ўскладзеныя кветкі да помніка "Загінулым і забітым на ўсходзе" - у памяць было знішчэнне польскага народа, павінна быць названа генацыдам.

*Паводле Радыё Свабода*
*17.09.2015*

# Баевікі ваююць на браніраваных БелАЗах

Байцы «Ісламскай дзяржавы" пачалі прымяняць для баявых дзеяньняў самазвал БелАЗ, які раней ужываўся дзеля будаўніцтва дарогаў у Сырыі. Пераробленыя стальны монстр выкарыстоўваецца таксама ў якасьці машыны для выбухаў тэрарыстаў-самазабойцаў.





# У Прыбайкальлі зьявілася шыльда ў гонар беларускіх ссыльных

Намаганьнямі актывістаў Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага на адной з вяршыняў горнае сістэмы Хамар-Дабан зьявілася шыльда ў гонар сасланых у Сібір удзельнікаў Паўстання 1863 г. і асабіста аднаго з іх – Яна Чэрскага. Шыльда была ўсталяваная падчас традыцыйнага паходу беларусаў Іркуцка на пік Чэрскага – адну з найвышэйшых кропак хрыбту Хамар-Дабан і аднаго з папулярных турыстычных маршрутаў Прыбайкальля. Паход быў прымеркаваны да 170-годдзя славутага дасьледчыка і прайшоў ужо трэці раз – першы адбыўся 10 гадоў таму, другі – 5 гадоў.

У тэксце шыльды на дзьвюх мовах – расейскай і беларускай – згадваюцца Паўстанне, высылка асуджаных на ка таргу ўдзельнікаў, іхны ўплыў на жыць- цё Сібіры, а таксама асноўныя факты з біяграфіі Чэрскага. Побач месьціцца ягоны партрэт, паўстанцкі герб і схематычныя выявы, якія адлюстроўваюць лёс навукоўца – ад паўстанцкае зброі да навуковых дасягненьняў.

Паход адбыўся 11–14 жніўня, адразу па заканчэнні Фестывалю беларусаў сьвету на Байкале 3–9 жніўня.

***Аляксей Кухта***
*Паводле сайту ЗБС "Бацькаўшчына"*



"Згуртаванне беларусаў свету

"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

# Згуртаваньню беларусаў сьвету "Бацькаўшчына "— 25 гадоў!

***З гэтай нагоды Управа ЗБС прыняла адмысловы зварот да беларусаў сьвету:***

Дарагія сябры!

10 верасьня Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" адзначала цудоўную дату — сваё 25-годдзе. Многія з вас памятаюць правядзеньне ўстаноўчай канферэнцыі ў 1990-м годзе, калі было створана Згуртаваньне, і тую ўзнёслую атмасферу, што тады панавала. Гэта быў час Адраджэньня, час спадзеваў і веры, час вяртаньня нацыянальнай годнасьці. Думка пра яднаньне беларусаў, раскіданых воляй лёсу па цэлым сьвеце, лунала ў паветры маладой дзяржавы, што здабывала сваю незалежнасьць. Падхапіўшы гэтую думку, пачынальнікі Згуртаваньня з гарачым імпэтам узяліся за гэтую вялікую справу.

Успаміны пра Першы з'езд беларусаў свету ў ліпені 1993 году, арганізаваны Згуртаваньнем, дагэтуль кранаюць сэрцы — тады багата беларусаў упершыню за многія дзесяцігоддзі вярнуліся на Радзіму. З усіх куткоў планеты зьехаліся яны, каб сустрэцца разам на сваёй зямлі.

Сёньня Згуртаване яднае беларусаў і беларускія арганізацыі з больш як 25 краінаў сьвету, дапамагае ім знаходзіць і падтрымліваць кантакты між сабою, рупіцца пра захаваньне эмігрантамі свайёй беларускай ідэнтычнасці . І тут, у Беларусі, робіць вялікія намаганьні, каб беларусы і на свайёй Бацькаўшчыне адчувалі гэтую ідэнтычнасць і ганарыліся свайёй нацыянальнай прыналежнасьцю.

Шаноўныя сябры! Мы ўсіх вас шчыра віншуем з гэтым агульным для нас Сьвятам! Згуртаванне ўжо мае багатую гісторыю і шмат яшчэ ў нас наперадзе! І гэту новую гісторыю нам стварaць разам!

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Галоўная управа Беларуска- Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) віншуе Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" з юбілеем — 25-мі ўгодкамі надзвычай плённай дзейнасьці ў справе яднаньня беларускай эміграцыі ў сьвеце. Уся ваша праца была скіраваная на тое, каб вярнуць адлучаным ад родных каранёў замежным беларусам пачуцьцё Радзімы. Шмат у чым удалося дасягнуць гэтай мэты, але не выйшла ў поўнай меры з-за зьмены палітычнай сытуацыі ў Беларусі. Ваша дзейнасьць зараз адбываецца ў складаных умовах, аднак яна не перапыненая і за гэта наша вялікая падзяка усім тым, хто працуе ў Згуртаваньні. Посьпехаў вам на далейшым шляху!

*Галоўная управа БАЗА*

---



***У Менску ў сэрыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны», якую выпускае выдавецтва «Лімарыус», выйшла кніга эпісталярыю вядомага дзеяча беларускай эміграцыі ў ЗША доктара Янкі Запрудніка пад назваю «Па гарачых сьлядах мінуўшчыны».***

# Новая кніга доктара Янкі Запрудніка

Кнігу складаюць выбраныя лісты сп. Запрудніка за 1952–1959 гады да розных асобаў, з якімі зводзіў яго жыцьцёвы лёс, сярод іх шмат вядомых людзей, што пакінулі сьлед у беларускай гісторыі і культуры.

У інтэрвію Радыё Свабода з нагоды выхаду кнігі сп. Запруднік разважае пра актуальнасьць эпістальярнага жанру ў літаратуры,.

***— Спадар Янка, у 2002 годзе выйшла ваша кніга «Дванаццатка», там распавядалася пра лёс 12 беларускіх хлопцаў, якія ў пасьляваенны час вымушаныя былі шукаць шчасьця на чужыне. Ці можна сказаць, што цяперашняя кніга ў нейкім сэнсе працягвае «Дванаццатку»? Ці ёсьць сярод вашых рэспандэнтаў тыя, пра каго вы пісалі ў «Дванаццатцы»?***

— Новая кніга дапаўняе «Дванаццатку» ў тым сэнсе, што «Па гарачых сьлядах мінуўшчыны» — гэта лісты, якія адрасаваліся сябрам. Сябрам зь ліку гэтых дванаццаці чалавек у тым ліку. Лісты напісаныя розным асобам, але ў тым ліку і сябрам з «Дванаццаткі», зь якімі мы супрацоўнічалі. Гэта Уладзімер Цьвірка, Янка Жучка, Паўлюк Урбан, Цімох Вострыкаў. Кніга «Па гарачых сьлядах мінуўшчыны" дапаўняе «Дванаццатку» тым, што гэта дакумэнтальнае сьведчаньне нашага супрацоўніцтва пасьля таго, як мы ў 50-м годзе прыехалі вучыцца ў Лювэнскім унівэрсытэце.

***— У сучаснай беларускай літаратуры эпісталярны жанр — зьява ня рэдкая, нават у апошнія гады можна прыгадаць выданьне перапіскі Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна «Рукаюцца душы» альбо лістоў Ларысы Геніюш. Чаму гэты жанр застаецца актуальным?***

— Эпістальярная літаратура мае даўгую гісторыю, гэтая літаратура актуальная стагодзьдзямі. Гэта фундамэнтальны жанр літаратуры, які сьведчыць пра дачыненьні паміж асобамі ў самых розных сфэрах жыцьця. Адметнасьць эпістальярнай літаратуры ў тым, што ў лістах выказваюцца самыя беспасярэднія памоманты жыцьця, якое, як рака, цячэ, і трэба ўмець яго адчуць. Праз лісты якраз можна адчуць беспасярэдні кантакт з жыцьцём. У пляне жанру такая кніга была і будзе актуальнай, бо цяпер людзі ў кантакце яшчэ больш. Цяпер, у кібэрнэтычнай прасторы, вельмі багата эпістальярнай літаратуры. Твітэр і Фэйсбук таксама ёсьць формай камунікацыі паміж асобамі.




— Ліставаньне — гэта таксама частка жыцьця, а ў лістах захоўваюцца самыя важныя моманты ў жыцьці чалавека — супрацоўніцтва, клопаты, інфармацыя пра блізкіх. У гэтым сэнсе мая кніжка — у рэчышчы старой традыцыі ліставаньня паміж асобамі, паміж групамі. Кніга закранае самыя беспасярэднія чуцьці і закранаюцца самыя важныя моманты ў жыцьці чалавека — супрацоўніцтва, клопаты, інфармацыя пра блізкіх. У гэтым сэнсе мая кніжка — у рэчышчы старой традыцыі ліставаньня паміж асобамі, паміж групамі. Кніга закранае самыя беспасярэднія

***— Вам шчасьлівым чынам удалося сыстэматызаваць сваю перапіску і нават выдаць яе частку. А які лёс лістоў іншых дзеячаў беларускай дыяспары? Напрыклад, перапіскі выбітнай паэткі Натальлі Арсеньевай, якая памерла ў 1997 годзе? Альбо кіраўнікоў Рады БНР? Ці існуе нейкі адзіны цэнтар, нейкае сховішча, якое б акумулявала архівы дыяспары?***

— Ёсьць Беларускі дзяржаўны архіў-музэй, у якім у Менску працуе Натальля Гардзіенка, а ў Нью-Ёрку ёсьць Лявон Юрэвіч, які таксама займаецца архіваваньнем лістоў. Гардзіенка і Юрэвіч маюць дачыненьне да збору лістоў, эпісталярнай дакумэнтацыі. Я таксама ў гэтым удзельнічаю, і цяпер мы ўсе ў працэсе збіраньня лістоў тых эміграцыйных дзеячаў, якія адышлі ў лепшы сьвет.

*Паводле Радыё Свабода*

# Дзень аднаўленьня незалежнасьці Беларусі ў Нью-Ёрку

***23 жніўня ў Беларускім цэнтры ў Нью-Ёрку на Атлантык Авэню 401 адбылася ўрачыстая імпрэза, прысьвечаная Дню аднаўленьня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, калі 25 жніўня 1991 году Дэклярацыі аб незалежнасьці ад 27 ліпеня 1990 году быў нададзены статус канстытуцыйнага закону і наша краіна набыла юрыдычны статус незалежнай дзяржавы. З таго часу Беларусь зьявілася на мапе сьвету, як самастойная краіна, а ў самой Беларусі распачаўся працэс дзяржаўнага будаўніцтва. Пра падзеі таго часу распавёў сп. Зянон Пазьняк - непасрэдны іх ўдзельнік, лідэр апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, якая ініцыявала прыняцьце закону аб незалежнасьці і дамаглася, каб ён стаўся рэальнасьцю. Са сьвятам прысутных вітала госьця з Канады - старшыня Рады БНР сп. Івонка Сурвілла.***






Госьць з Прагі, журналіст Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода, намеснік старшыні Рады БНР сп. Сяргей Навумчык прадставіў свае дзьве новыя кнігі пра падзеі 1994 і 1995 гадоў ў Беларусі, калі аднаўлялася наша дзяржаўнасьць і як пачыналася станаўленьне маладой краіны.

Сп. Галіна Пазьняк па мастацку пранікнёна задэклямавала патрыятычныя вершы Ларысы Геніюш, галоўным зьместам якіх ёсьць ідэя волі і незалежнасьці Беларусі.

У другой палове імпрэзы адбылася прэзэнтацыя новых кнігаў, якія сваёй тэматыкаю непасрэдна зьвязаныя са сьвяткаваньне і ўдала дапоўнілі ягоную праграму .







Ён таксама быў актыўным удзельнікам тых падзеяў.

Вядучая імпрэзы - старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА сп. Тацьцяна Красоўская прадставіла слова прысутнаму госьцю - выбітнаму дзеячу беларускай эміграцыі ў ЗША сп. Вітаўту Кіпелю. Яна адзначыла, што менавіта беларуская эміграцыя захоўвала ў савецкія часы ідэю незалежнасьці Беларусі і кожны год сьвяткавала ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году.

Сп. Кіпель прапанаваў увазе прысутных сваю кнігу ўспамінаў "Жыць і дзеіць", што выйшла сёлета ў Менску. Ён падкрэсьліў, што галоўны сэнс кнігі і адлюстраванага ў ёй ягонага асабістага жыцьця як раз і ёсьць гэтая ідэя змаганьня за незалежнасьць Бацькаўшчыны. Усё, што рабіла эміграцыя, было накіравана дзеля таго, каб гэты дзень настаў. Адмыслова на імпрэзу ў Нью-Ёрк прыехаў рэдактар кнігі, журналіст Радыё Свабода сп. Сяргей Шупа , які таксама ўзяў слова і выказаў ўдзячнасьць сп. Кіпелю за ягоную працу і тое, што ўсё гэта цяпер занатавана для гісторыі.

Кніга выйшла ў Менску ў выдавецтве Зьміцера Коласа.

*Ганна Сурмач*









# Сустрэча з беларускай моладдзю ў Філадэльфіі



15 жніўня выдалася цудоўнае надвор'е, хаця трохі і прыпякала сонейка. Дарога да Філадэльфіі заняла дзьве гадзіны аўтобусам, якія праляцелі незаўважна ў гутарках і назіраньнем за краявідамі за вакном. Ехалі мы - прадстаўнікі Галоўнай управы БАЗА і Бруклінскага аддзелу на сустрэчу з беларускай моладдзю. Пра гэтае спатканьне было дамоўлена ўжо даўно і толькі цяпер выдалася магчымасьць ажыцьцявіць задуманае. Сустрэла нас на вакзале Натальля Ганчарук, сябра Галоўнай управы БАЗА. Менавіта яна была асноўным арганізатарам спатканьня. Наташу мы ведаем ужо досыць доўгі час, як актыўную і нацыянальна сьведамую беларуску, якая і на чужыне імкнецца не страціць сваё нацыянальнае пачуцьцё, не дазваляе сабе перарваць сувязі з Бацькаўшчынаю. Яна ўжо двойчы абіралася ў склад Галоўнай упарвы БАЗА на Кангрэсах, як прадстаўніца філадэльфійскіх беларусаў.



Беларуская моладзь у Філадэльфіі патроху гуртуецца. Нам паведамілі, што недзе прыкладна каля чатырох дзесяткаў чалавек кантактуюць між сабою і часам зьбіраюцца на сяброўскія сустрэчы. Толькі невялікая частка з іх прыйшлі на сустрэчу ў гэты выходны дзень. Для бальшыні выходныя дні - працоўныя, або занятыя вучобаю ці іншымі пільнымі справамі. Новае жыцьцё патрабуе шмат намаганьняў і волны час не заўсёды знаходзіцца для грамадзкіх справаў.




Да арганізацыйнага аб'яднаньня моладзі пакуль справа не дайшла, але, галоўнае, што гэтыя маладыя людзі памятаюць, што яны беларусы і не ідуць да іншых, а імкнуцца кантактаваць між сабою. Мэта нашага прыезду якраз і палягала ў тым, каб падтрымаць гэты працэс, каб давесьці да маладых эмігрантаў неабходнасьць захоўваць сваю нацыянальную ідэнтычнасьць далёка ад Радзімы. Яны ў маладым веку апынуліся на чужыне і ладзіць новае жыцьцё лягчэй з падтрымкаю суродзічаў. Таксама важна ў кантактах з амэрыканцамі і іншымі эмігрантамі прадстаўляць сябе годнымі людзьмі, якія маюць за сабою краіну, што яны не ёсьць перакаці-полем, без каранёў і Бацькаўшчыны, без сваёй адметнай нацыі. Пра гэта гаварыла ў сваёй сяброўскай прамове старшыня Галоўнай управы Ганна Сурмач. Прыемна было бачыць, як уважліва і зацікаўлена слухалі прысутныя. Старшыня Бруклінскага аддзелу Тацьцяна Красоўская распавяла пра гісторыю стварэньня БАЗА і яе структураў і запрасіла філадэльфійскіх беларусаў наведвацца ў Беларускі цэнтр ў Нью-Ёрку пад час розных імпрэзаў і сьвяткаваньняў і тым самым далучацца да больш шырокага беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы. Трэба адзначыцьць, што сябры Бруклінскага аддзелу з Філадэльфіі пры магчымасьці прыязджаюць на мерапрыемствы БАЗА. Сустрэча прайшла ў цёплай сяброўскай атмасфэры. Маладыя людзі пакінулі па сабе вельмі прыемныя ўражаньні сваёй шчырасьцю, інтэлігентнасьцю, зацікаўленасьцю да беларускіх справаў.

Мы выказалі спадзяваньне, што гэтыя кантакты і сустрэчы будуць працягвацца і надалей, што нарэшце ў Філадэльфіі будзе створана структура БАЗА - Гурток ці Аддзел. Такім чынам можа быць працягнута гісторыя беларускай прысутнасьці ў Філадэльфіі - горадзе, дзе захоўваецца гісторыя Амэрыкі, дзе захоўваецца душа гэтай краіны. Паваенная эміграцыя тут мела свае суполкі і актыўна ўдзельнічала ў агульнаамэрыканскім беларускім жыцьці. Цяпер гэта варта аднавіць.

Пасьля спатканьня мы мелі некалькі гадзінаў, каб агледзець гістарычную частку гораду. Нашымі экскурсаводамі былі Наташа Ганчарук І Алена Літоўка. Адчуваецца, што дзяўчаты любяць свой горад і распавядалі нам пра гістарычныя мясьціны. Філадэльфія ўразіла мяне асабіста не толькі гістарычнымі помнікамі, але і надзвычай гарманічнай і густоўнай архітэктурай гораду. Старыя і новыя будынкі зьліваюцца ў адзінае цэлае, не засланяюць адзін аднаго, а дапаўняюць і тым ствараюць непаўторны, асаблівы асяродак, гарадскую прастору, якая цешыць вока, уздымае настрой і адчуваньне велічы духу Амэрыкі.

Давялося там адчуць і гонар за сваю краіну, за нашу нацыю, якая таксама ў розныя часы прыняла разам з цэлым сьветам дзейсны ўдзел у будаўніцтве гэтай вялікай дзяржавы. На бульвары Бенджаміна Фрэнкліна - галоўнай вуліцы цэнтальнай часткі гораду мы натрапілі на велічны помнік і адразу пазналася - Тадэвуш Касьцюшка, наш нацыянальны герой і нацыянальны герой ЗША. У Філадэльфіі знаходзяцца два Нацыянальных мемарыялы - Бенджаміна Фрэнкліна і Тадэвуша Касьцюшкі.

Пабывалі мы каля Звону Свабоды, каля будынку, дзе была прынятая Дэкларацыя аб незалежнасьці ў 1776 годзе, 4 ліпеня. Галоўная дата амэрыканскай гісторыі - Дзень Незалежнасьці, Дзень нараджэньня ЗША. Мне міжволі падумалася, што мусіла я некалі прыехаць у гэтую краіну, бо і я нарадзілася 4 ліпеня, амэрыканскія ўрадоўцы заўсёды мне цёпла ўсьміхаюцца, бачачы ў дакумэнтах запіс пра дату народзінаў.

Прыемна было пачувацца, што мы - беларусы тут ёсьць і сёньня, што Касьцюшка мог бы быць задаволены сваімі суродзічамі, што пайшлі па ягоных сьлядах, што пераймаюць з пакаленьня ў пакаленьне справу беларускай прысутнасьці сярод іншых народаў Амэрыкі, якія ў магутнай супольнасьці трымаюць гэтую краіну на належнай вышыні.

За гэтую прыемную і карысную сустрэчу мы шчыра дзякуем нашым філадэльфійскім сябрам - Натальлі Ганчарук, Натальлі Лукашэні, Алене Літоўцы, Яраславу Муштукову, Андрэю Цьвікевічу, Сяргею Чачанцу.

***Ганна Сурмач***



# Адысэя Вітаўта Кіпеля

**Уладзімер Арлоў**

Ня ведаю, як у каго, а ў мяне пры думцы пра нашую дыяспару перад вачыма найперш паўстае ён, Вітаўт Кіпель — магутная постаць, прыгожы беларускі твар, глыбокія мудрыя вочы чалавека, надзеленага моцным духам, які сілкуецца вераю ў сваю праўду.

Гісторыя майго знаёмства з спадаром Вітаўтам налічвае ўжо не адно дзесяцігодзьдзе, а пачалася яна яшчэ ў 1970-х гадах, калі ён быў для мяне супрацоўнікам Беларускай службы Радыё Свабода Вітаўтам Зубкоўскім. Упершыню мы спаткаліся на пачатку 1990-х і потым бачыліся вельмі часта. Самае памятнае і сьветлае — супольныя вандроўкі па далёкіх і блізкіх менскіх ваколіцах, у Слуцак, Крычаў, Магілёў, Рэчыцу, Мсьціслаў, Віцебск і, вядома, у мой родны Полацак, да якога Кіпель ставіўся з асаблівай пашанай і любоўю, называючы Спаса-Эўфрасіньнеўскую царкву «нашым нацыянальным Араратам». Дарэчы, бяз Кіпелевай дапамогі ў новых выданьнях маіх «Таямніцаў полацкай гістрыі» не зьявіліся б многія новыя старонкі, прысьвечаныя, напрыклад, дзейнасьці полацкіх езуітаў у ЗША, або вядомай амэрыканскай пісьменьніцы Мэры Энцін, што прыйшла на сьвет і пражыла дзіцячыя гады ў Полацку.

Я ніколі не стамляюся захапляцца Вітаўтавай эрудыцыяй, дапытлівасьцю й дасьціпнасьцю. І — выдатнай памяцьцю, што захоўвала ня толькі падзеі, імёны, даты, адрасы, але і дыялёгі, цікавыя й каляровыя дэталі, што маглі зрабіць любую згадку пра мінулае незваротна жывой і паўнакроўнай. Ува мне даўно жыла мара пра кнігу ягоных успамінаў. І вось гэтая кніга (выдавец Зьміцер Колас) нарэшце зьявілася.

У ёй, можна сказаць, зьмясьцілася цэлае стагодзьдзе — ад дзіцячых гадоў у Менску і расейскай высылцы, ад юнацтва ў акупаванай нацыстамі беларускай сталіцы да вяртаньня ў Беларусь пасьля пяцідзесяці гадоў працы дзеля яе за многія тысячы кілямэтраў і міляў. Аўтар прадмовы, яшчэ адзін лідэр беларускай эміграцыі Янка Запруднік, папярэджвае чытача, што Кіпелевы мэмуары вызначаецца ляканічным стылем, бо спачатку тэкст быў нагавораны Сяргею Шупу, які — хочацца адразу дадаць — такім чынам адыграў ролю значна большую, чым проста рэдактара. «Жыцьцё апавядальніка, — піша Запруднік, — было нагэтулькі насычанае, што ён, каб расказаць пра ўсё, як бы сьпяшаецца, пазьбягаючы лішніх слоў. Кніга адзначаецца дынамізмам аповеду, лёгкасьцю чытаньня, гэта — сапраўдны падзейны калейдаскоп». Пагаджаючыся ў галоўным, тым ня менш, адзначу, што асабіста ў мяне адчуваньня, нібыта аўтар недзе сьпяшаўся, ня ўзьнікла, а калейдаскоп для мяне ператварыўся ў шматфарбную панараму.

Кнігу Вітаўта Кіпеля можна чытаць па-рознаму. Можна, нарабіўшы ў важкім томе закладак і ўзяўшы яго пад паху, рушыць па менскіх вуліцах і завулках, уяўляючы, як усё выглядала на пачатку мінулага стагодзьдзя або ў ягоныя дваццатыя-сараковыя гады. Вось тут, «у рагавым доме насупроць гарадзкога тэатру» на сучаснай вуліцы Маркса, нарадзілася маці аўтара. Дзед працаваў «пры ціятрах» у шатні і жыў насупроць цяперашняга Купалаўскага ў тэатральнай кватэры. А потым, сабраўшы грошай, пабудаваў дом на Горным завулку каля «яшчэ сьвежых» Вайсковых могілак і толькі што пабудаванай царквы Аляксандра Неўскага, вакол якой было ня больш за «паўсотні выспачак». Ад «ціятраў» зусім недалёка да колішняга дому працаўнікоў Наркампросу, што захаваўся на Інтэрнацыянальнай за саркафагам Палацу Рэспублікі. У тым будынку месьціўся дзіцячы садок — адзіны сярод менскіх садкоў, куды прынялі малога Вітаўта пасьля арышту ў 1930-м бацькі-«нацдэма».




Туды бралі і іншых дзетак «ворагаў», а таму садок быў перапоўнены і ў «мёртвую гадзіну» малеча спала нават на падлозе ў калідоры. Дзеці павінны былі атрымаць адпаведнае выхаваньне, і Вітаўт на ўсё жыцьцё запомніў развучаную з выхавацелькамі песеньку:

Камсамолачка Дарота,пойдзем разам ваяваць — буду біць я з кулямёта,ты — патроны падаваць...

Ад колішняга садка зусім недалёка да Траецкага прадмесься і сёньняшняга Дому прыроды, у будынку якога пад час нямецкай акупацыі была 29-я народная школа, куды Вітаўт пайшоў у сёмую клясу.

Можна чытаць гэтую кнігу, і зазірнуўшы спачатку ў паказальнік імёнаў. Тады вас чакае сустрэча з цэлай галерэяю выдатных і проста вядомых асобаў. Іхні пералік хочацца пачаць з Кіпеляў — бацькі Яўхіма, навукоўца і палітыка, маці Марыі, пэдагога і паплечніцы па працы ў эміграцыі, і жонкі Зоры, знанай у сьвеце літаратуразнаўцы і перакладчыцы, гісторыю знаёмства, каханьня і доўгага шчасьлівага жыцьця зь якой я вылучыў для сябе ў асобны разьдзел. Дагэтуль не магу спакойна ўзгадваць пачуты ад спадара Вітаўта аповед, як ён сьпяваў Зоры перад яе адыходам у іншы сьвет беларускія песьні...


З Васілём Быкавым у Празе, 1997

?Назаву толькі некаторыя іншыя імёны, бо іх — многія дзясяткі. Гісторыкі Мікола Ўлашчык і Вітаўт Тумаш, гісторык, літаратуразнаўца і пісьменьнік Антон Адамовіч, паэтка Натальля Арсеньнева, кампазытар Мікола Равенскі, сьвятар Мікалай Лапіцкі, пэдагог Аляксандар Орса і ягоная дачка Ала Орса-Рамана, безь якой немагчыма ўявіць дзейнасьць нашай сучаснай эміграцыі...

Дзякуючы прыездам дэлегацый БССР на сэсіі Генэральнай асамблеі ААН Кіпель пазнаёміўся зь Пятром Глебкам, Алесем Адамовічам, Іванам Чыгрынавым... Вядома, што гонар такой паездкі трэба было заслужыць і трымацца ў пэўных рамках, хоць ад кагосьці гэта і не вымагала асаблівых высілкаў. Чыгрынаў лічыў, што «савецкая ўлада ніякіх злачынстваў на сабе ня мае», але хацеў набыць эміграцкія кнігі. Будучы рэктар ЭГУ Анатоль Міхайлаў, які ў свой час працаваў прадстаўніком ад БССР у адным з ААНаўскіх інстытутаў, уразіў Вітаўта і Зору непрыхаванай «варожасьцю да беларускай мовы». «Найлепшае ўражаньне з усіх беларускіх пісьменьнікаў і тагачасных гасьцей зь Беларусі ў Нью-Ёрку, — піша Кіпель, — зрабіў Вячаслаў Адамчык».

Магу таксама парэкамэндаваць чытаць кнігу не запар, а — каб адчуць яе магнэтызм — выбіраць спачатку асобныя разьдзелы. «Налінск і Кіраў», а таксама «Арол» — пра высылку. 1937 год. «Аднаго вечару маці прыйшла з працы вельмі позна і расплакалася... Ёй надышоў час атрымаць пашпарт, якога ў яе дагэтуль не было. І вось дырэктар школы паклікаў яе ў кабінэт і ў прысутнасьці завуча кажа: там у вас у графе нацыянальнасьць стаіць „белоруска“, але ж гэта „не имеет никакого значения“. І для нас прасьцей і для вас будзе зручней, калі мы напішам „русская“. Яна кажа: „Ну, калі „не имеет никакого значения“, то хай застаецца „беларуска““. Дырэктар нічога не адказаў, і яна выйшла з кабінэту»...

Разьдзел «Арол. Вайна». Кастрычнік 1941-га. Немцы набліжаюцца да гораду. Вітаўт з сынам суседзяў-расейцаў бачаць у прыдарожнай канаве цяжка параненага. «Дядя, может мы вам чем-небудь поможем?» — пытаецца Кіпелеў спадарожнік. Скрываўлены чалавек раптам ціха адказвае пабеларуску, што яму ўжо нічога не дапаможа. «Дзядзька, — загаварыў уражаны Вітаўт, — і я беларус, як вам дапамагчы?» Пачуўшы родную мову, паранены паспрабаваў прыўзьняцца і, паклікаўшы хлопца бліжэй, пасьпеў, перад тым, як ягонае дыханьне спынілася, сказаць: «Вось, дзетка, я паміраю. Я з-пад Воршы. Мяне выгналі маскалі, і запамятай, дзетка, што ўсё зло на нас ад маскалёў». Што згадалася над гэтай старонкай? Так, «Лісты з-пад шыбеніцы».

Або разьдзел пра акупаваны немцамі Менск. Аблавы, тэрор, усе жахі вайны. Але дзякуючы беларускай адміністрацыі, якая ў тых нялюдзкіх умовах — цудоўна разумеючы, чаго можна чакаць ад нацыстаў — імкнулася працаваць дзеля сваіх людзей, у Менску, адрозна ад Арла, ёсьць хлеб і наогул, прынамсі ў 1942-м, калі туды прыехалі Кіпелі, харчоў хапае. Працуюць мэдычныя ўстановы, газэтныя і кніжныя шапікі, кінатэатры, беларускі драмтэатар... «Менск пасьля Арла рабіў уражаньне арганізаванага гораду». Гэта найлепшы адказ тым, хто і сёньня спрабуе абвясьціць беларускіх дзеячаў таго часу суцэльнымі здраднікамі і ворагамі беларускага народу. Паводле гэтай лёгікі, лепей было б, каб беларусы ня мелі працы, паміралі ад голаду і хваробаў, каб дзеці не маглі вучыцца.

Тут дарэчы будзе нагадаць выкладзеную у кнізе гісторыю з прызначэньнем бургамістрам Менску таксама ў нечых вачах «здрадніка» Вітаўта Тумаша, які, да слова, ніколі ня быў грамадзянінам СССР і наогул ня жыў пры «саветах». Пачатак нямецка-савецкай вайны засьпеў Тумаша ў Бэрліне (перад Другой сусьветнай ён студыяваў мэдыцыну ў Віленскім унівэрсытэце). 27 чэрвеня 1941 году да яго прыйшлі гестапаўцы і пад пагрозай зьняволеньня й распраў загадалі зьбірацца: вэрмахт бярэ Менск, «лета надыходзіць, можа ня быць вады, ежа будзе нясьвежая... Ваша заданьне — арганізаваць адміністрацыю, не дапусьціць эпідэміі».

У верасьні 1942-га Вітаўт пайшоў у беларускую школу. «Нямецкага прапагандысцкага ціску ў школе не адчувалася, партрэтаў Гітлера нідзе не віселі... Адзінае, дзе мог быць нейкі „пранямецкі“ мамэнт — на лекцыях нямецкай мовы наша немка давала вучыць тры-чатыры вершыкі на выбар, і сярод іх заўсёды быў нейкі мадэрны тагачасны, часам больш-менш нацыстоўскага зьместу... Але мы ніколі гэтых вершаў не выбіралі. Бальшыня выбірала Гётэ...»

Пераважная частка мэмуараў прысьвечаная паваеннай адысеі аўтара: Нямеч-




З прэзыдэнтам Картэрам у Белым доме, люты 1980

чына, Бэльгія, Злучаныя Штаты. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, скаўтынг, Лювэнскі ўнівэрсытэт (на шляху ў навуку Вітаўту, між іншага, давялося і даіць кароў, і працаваць на фабрыцы, што рыхтавала кішкі для каўбасаў).

Амэрыканскі пэрыяд, як адзначае ў прадмове Янка Запруднік, асабліва «урадлівы на грамадзкую і навуковую дзейнасьць». (Чаго вартая хаця б кніга «Беларусы ў ЗША»!) Ён жа раіць у адлюстраваньні гэтага пэрыяду зьвярнуць увагу на шматгадовую плённую працу аўтара ўспамінаў у славутай Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы ды на справы БІНіМУ — Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, які ад 1982 году Вітаўт Кіпель і ўзначальвае. Зрэшты, зь цікавасьцю і карысьцю прачытаюцца й іншыя разьдзелы, да прыкладу, «Сям'я і будні», дзе нашы эмігранты новай хвалі знойдуць парады ў справе выхаваньня дзяцей і ўнукаў «у лучнасьці зь беларускасьцю і Беларусьсю». У Кіпеляў гэта атрымалася выдатна.

Апошнюю частку кнігі — «Вяртаньне ў Беларусь», дзе апавядаецца аб шматлікіх прыездах Вітаўта і Зоры Кіпеляў на радзіму пасьля краху савецкай імпэрыі, аб іх удзелах у навуковых канфэрэнцыях, кантактах з навукоўцамі і літаратарамі я, з ужо тлумачаных прычынаў, часта чытаў з пачуцьцём дэжавю, але нязьменна дзівіўся ўменьню Кіпеля аднаўляць падзеі ўва ўсёй іхняй шматсэнсавасьці, шматфарбнасьці, а часам і трагікамічнасьці.

Так, у Рэчыцы (яе на мяжы XVI-XVII стагодзьдзяў апісаў першы губэрнатар Вірджыніі капітан Сьміт, які ў свой час вяртаўся праз гэты горад з турэцкага палону, аб чым Зора Кіпель зрабіла публікацыю ў «Запісах» БІНіМУ) рэстаран сапраўды быў «закрыт на обед». У дадатак узьнікла і вусьцішная праблема з прыбіральняй (з гэтым у раённых гарадах у 1990-я было, бадай, ня лепей, чым за часамі Сьміта). Першую прыгоду аўтар мэмуараў успомніў толькі мімаходзь, а другую вырашыў і ня ўзгадваць. У такіх драбніцах таксама адчуваецца маштаб асобы, бо ў мяне на памяці іншыя ўспаміны замежных суайчыньнікаў, дзе падобныя сытуацыі абсмоктваюцца на цэлых старонках.



З Папам Янам Паўлам II, травень 1990

Са скрухаю піша спадар Вітаўт пры канцы кнігі, як ня зьдзейсьніліся іхнія з Зорай пляны прыехаць працаваць у Беларусь — «выкладаць, аналізаваць, парадкаваць...» З адпаведнымі просьбамі, як высьветлілася, яны зьвярталіся да некаторых вядомых асобаў, аднак тыя або адказалі, што «працы ў нас няма і з гэтым вазіцца ня будзем» або проста «забыліся». Пакіну сказанае без камэнтароў. Ну а Кіпелі вырашылі — ды іначай і не маглі — працягваць працаваць «па-за Беларусьсю, для Беларусі». Якраз гэтымі словамі і сканчваюцца ўспаміны.

Пульхная ад шматлікіх закладак кніга Вітаўта Кіпеля ўжо заняла ў маёй бібліятэцы сваё пачэснае месца паміж томам успамінаў ягонага бацькі Яўхіма і магутным шыхтом БІНіМаўскіх выданьняў з сэрыі «Беларускія паэты і пісьменьнікі». Ёй будзе камфортна ў кампаніі з творамі Натальлі Арсеньневай й Алеся Салаўя, Уладзімера Дудзіцкага й Юркі Віцьбіча, Вітаўта Тумаша й Антона Адамовіча... Многія з гэтых тамоў зьявіліся на сьвет дзякуючы менавіта Вітаўту, а іхнія аўтары сталіся героямі ягонай новай кнігі, якую яшчэ ня раз захочацца пакласьці перад сабой на пісьмовы стол.

*Паводле Радыё Свабода 22.08.2015*

# Каляндар памятных датаў на кастрычнік 2015

**1 кастрычніка - Міжнародны дзень музыкі**

**2 кастрычніка - Міжнародны дзень лекара**

**2 кастрычніка, 40** гадоў таму, у 1975 годзе, памёр **Тамаш Падзява**, каталіцкі сьвятар-марыянін, тэоляг, публіцыст

**4 кастрычніка, 125** гадоў таму, у 1890 годзе, нарадзіўся **Язэп Гладкі**, грамадзкі дзеяч, фальклярыст, этнограф, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**7 кастрычніка, 250** гадоў таму, у 1765 годзе, нарадзіўся **Міхал Клеафас Агінскі**, дзяржаўны дзеяч, кампазітар, удзельнік паўстаньня 1794 году

**9 кастрычніка - 95** гадоў таму, у 1920 годзе, адбылася **сустрэча прадстаўнікоў Рады БНР з прадстаўнікамі ўраду Латвіі.** Ад верасьня 1920 г. беларускі ўрад актывізаваў сваю дзейнасьць у гэтай краіне, каб паўплываць на ход мірных перамоваў паміж РСФСР і Польшаю, на якіх вырашаўся лёс таксама і Беларусі.

**12 кастрычніка - 90** гадоў таму, у 1925 годзе, у Бэрліне пачалася **Другая Усебеларуская канфэрэнцыя,** дзе была прынята заява аб роспуску Рады і Ураду БНР

**20 кастрычніка - 130** гадоў таму, у 1885 годзе, нарадзіўся **Алесь Бурбіс**, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, консул Беларускай Народнай Рэспублікі ў Маскве, намесьнік наркама замежных справаў БССР у пачатку 1920-х.

**20 кастрычніка - 95** гадоў таму, у 1920 годзе, **беларуская нацыянальна-палітычная нарада асудзіла расейска-польскую прэлімінарную мірную дамову,** якая была падпісаная за некалькі дзён перад гэтым і паводле якой Беларусь дзялілі на дзьве часткі.




**21 кастрычніка - 80** гадоў таму, у 1935 годзе, нарадзіўся **Юрка Геніюш**, пісьменьнік, публіцыст, сын Ларысы і Янкі Геніюшаў

**22 кастрычніка - 95** гадоў таму, у1920 годзе, нарадзіўся **Юрка Луцкевіч**, вайсковец, настаўнік, сябра Беларускай Незалежніцкай партыі, сын Антона Луцкевіча

**24 кастрычніка - Міжнародны дзень ААН**

**24 кастрычніка - 220** гадоў таму, у 1795 годзе, адбыўся **трэйці падзел Рэчы Паспалітай**

**25 кастрычніка - 95** гадоў таму , у 1920 годзе, генэрал **Булак-Балаховіч** пачаў свой самастойны паход дзеля вызваленьня Беларусі ад бальшавікоў

**25 кастрычніка - 20** гадоў таму, у 1995 годзе, памёр **Лявон Случчанін**, паэт

**27 кастрычніка - 25** гадоў таму, у 1990 годзе, у Гайнаўцы (Беласточчына) адкрыўся **Беларускі этнаграфічны музэй**

**28 кастрычніка - 170** гадоў таму, у 1845 годзе, нарадзіўся **Зыгмунт Урублеўскі**, удзельнік паўстаньня 1863-64 г.г., генерал Парыжскай камуны

**31 кастрычніка - 105** гадоў таму, у 1910 годзе, нарадзіўся **Леанід Галяк**, юрыст,журналіст, грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

# Беларусы на Фэстывалі Атлянтык Антык




Штогод напрыканцы верасьня ў нью-ёркскім Брукліне праходзіць шырока вядомы старэйшы Фэстываль Атлантык Антык. Для беларусаў Нью-Ёрку ён важны тым, што адбываецца якраз на той вуліцы Атлантык Авэню, дзе знаходзіцца наш царкоўна-грамадзкі цэнтр у будынку пад нумарам 401. Адным словам, самая ажыўленая



частка сьвята праходзіць якраз перад нашымі дзьвярыма. Дык зразумела, што ўдзельнічаць у ім мы павінны аднымі з першых, бо наша царква тут старэйшая і трымаецца на адным адрасе з 50-х гадоў, у той час, як у бальшыні астатніх будынкаў шмат разоў мяняліся гаспадары. Мы тут паважаныя старажылы і пад час мінулагодняга Фэстывалю нават атрымалі за гэта адмысловую ўзнагароду ад адміністрацыі боро.

Да Фэстывалю мы рыхтуемся загадзя. Фармальным удзельнікам ёсьць Парафія, але ў падрыхтоўцы бяруць удзел і сябры БАЗА і новапрыбылыя эмігранты, якія яшчэ не пасьпелі набыць сяброўства. Працуем усе, хто можа.

Галоўная дзялянка нашага ўдзелу ў Фэстывалі - продаж страваў. На дазвол гандлю купляем адмысловую ліцэнзію і на гэтым адміністрацыйны кантроль завяршаецца. Далей мы ўжо самі складаем меню, закупляем прадукты гатуем. Асноўную арганізацыйную функцыю ў гэтых справах бярэ на сябе сястрынства Парафіі. Вызначаецца, якія стравы найлепш купляюцца зыходзячы з практыкі мінулых гадоў. Падлічваюцца кошты, выдаткі з тым, каб быў добры прыбытак, які ідзе на падтрыманьне дзейнасьці Парафіі і царквы. Варта адзначыць, што менавіта на Фэстывалях былі зароблены сродкі на поўнае абнаўленьне кухні. Дзякуючы высілкам старасты Міколы Шчэрбы, які выконваў большую частку рамонтных працаў пры ўдзеле а. Івана і Віталя Пузача, удалося завершыць іх да Фэстывалю і ўся падрыхтоўка вялася ўжо на абноўленай кухні. Нашы жанчыны - гаспадыні адразу адчулі, як стала прыемна і зручна працаваць пры новай мэблі.

Фэстываль адбываўся ў нядзелю 27 верасьня, але ўжо ад раніцы ў пятніцу на кухні гудзела праца. Трэба адзначыць, што найбольшы ўдзел сёлета брала моладзь. Праўда, спачатку ім трэба было падвучыцца, як рабіць тыя галубцы, што добра прадаюцца. Але, хутка яны так налаўчыліся, што зрабілі ўсю норму за адзін дзень, на што раней трацілася два дні і болей. Тут вялікая падзяка належыцца Натальлі Сарагавец, Сьвятлане Казачок, Алене Талатынік, Дзіме Кавалёву, Дзіяне Мараковай.



У суботу пяклі каўбаскі і гатавалі нашу каронную страву - дранікі. Выявілася, што моладзь з гэтым сама выдатна спраўляецца, нават без навукі старэйшых. Дзіма Кавалёў і Сьвятлана Казачок дружнай параю цэлы дзень стаялі каля пліты і напяклі цэлую гару духмяных дранікаў.

У нядзею дапамогі прыбыло, тут ужо трэба было



пастарацца не толькі гатаваць, смажыць, парыць, але і пасьпяхова прадаць усё нагатаванае. Так што змагацца давялося на два фронты - на кухні і на вуліцы, дзе быў зладжаны наш "рэстаранчык" акурат насупраць нашага будынку. Дзеля гэтага Васіль Кузьменка з дапамогаю Дзімы Кавалёва ўстанавілі зручную палатку і сталы.

За смажаньне дранікаў на гэты раз узяліся вопытныя гаспадыні - Ала Трапашка ды Раіса Бабаш, цэлы дзень увіхаліся з патэльнямі каля гарачай пліты, сем патоў сьцякло ад задухі. А дранікі проста выхватваліся з пад іх рук і нясьліся на продаж, дык там часам і чарга стаяла за сьвежанькімі.

Гандаль таварам спрытна арганізавалі Ганна Агароднік і Натальля Федарэнка. Ганна так лоўка упраўлялася, што не можна было здагадацца, што прыбегла яна дапамагчы сябрам пасьля начной працы, нават не зайшоўшы дадому. Прадавалі стравы з прывабнымі ўсьмешкамі Дзіма Кавалёў, Жэня Ганчарэвіч, Вікторыя Судакова, Дзіяна Маракова.

Алена Пракоп за цэлы дзень так і не пасьпела нешта зьесці, бо увесь час мыла посуд, патрэба ў гэтай справе была вялікая, ужываны посуд трэба было хутка ізноў пускаць у ход. Спраўлялася яна са сваёй адказнаю роляю выдатна і за гэта заслужыла падзяку ад сябровак.

У час Фэстывалю мы не толькі прадаем стравы , але і папулярызуем нашу беларускую культуру. Гэтым разам арганізавалі продаж беларускіх сувеніраў, вырабленых мастачкаю Натальляю Сарагавец, яна нават праводзіла адмысловы майстар-кляс для жадаючых, паказвала, як робяцца беларускія выцінанкі.

Стараемся, каб пад час Фэстывалю выглядала па сьвяточнаму і наша заля, куды часам заходзяць госьці. Гэтым разам ролю беларускай гаспадыні залі выконвала Алена Радзеўская. Яна паклапацілася пра музыку і забясьпечыла паказ відэафільмаў на экране пра Беларусь.

Нашыя мужчыны - Уладзімір Караткевіч, Расьціслаў Гарошка, Юрка Лапіцкі па гаспадарску даглядалі агульны парадак перад будынкам і ў залі. Усім хапіла занятку.

Надвячоркам, калі сьвята скончылася, сабраліся разам усе нашы працаўнікі на сяброўскую вячэру. Пагаварылі, паўспаміналі, падсумавалі і прыйшлі да высновы, што працавалі не дарма, амаль ці не ўсё прадалі, зарабілі для царквы не менш, чым у мінулым годзе, а можа нават і троху больш, канкрэтна падлічыцца пазьней. Выказалі персанальныя падзякі кожнаму. Згадалі старэйшую сястру Тацьцяну Красоўскую, якая кожны год была арганізатарам падрыхтоўкі , але гэтым разам яна была ў ад'ездзе. Аднак, яна паклапацілася зрабіць усе патрэбныя закупы і з дапамогаю Алы Караткевіч яны прывезьлі ўсё пад царкву.



Прысутныя адчувалі радасьць, мелі добры настрой ад сумеснай працы дзеля грамадзкай карысьці. Гэта якраз тое, што аб'ядноўвае нас у адзіную беларускую грамаду.

***Ганна Сурмач***





*Зьмешчаны тут малюнак я ўзяў зь нядаўна атрыманага з Беларусі сувэніру-магнэціка. Ён прыгожа адлюстроўвае папулярную цяпер на Бацькаўшчыне плынь (трэнд) аздабляць адзеньне й розныя аб'екты шырокага ўжытку народнымі вузорамі. А здарылася так, што нашчадкі блізкай мне шматдзетнай сям'і вечнай памяці Міхаля й Хімы Рагалевічаў адзначалі на пачатку верасьня 65-я ўгодкі прыбыцьця ў Амэрыку. Дарэчы, такіх беларускіх сем'яў як Рагалевічы прыехала ў Амэрыку першымі паваеннымі гадамі тысячы. Яны сталіся будаўнікамі амэрыканска-беларускага жыцьця. У іхны гонар я й напісаў, па-беларуску й па-амэрыканску, зьмешчаную ніжэй імпрэсію "Дрэва жыцьця".*

**(На 65-я ўгодкі прыбыцьця ў Амэрыку ў верасьні 1950 г.)**

# ДРЭВА ЖЫЦЦЯ

## ДРЭВА РАГАЛЕВІЧАЎ ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ПАЛЕСЬСЯ НА АМЭРЫКАНСКАЙ ЗЯМЛІ





Ягоныя карані заглыблены ў самабытнай палескай зямлі – там, дзе шырокая Прыпяць павяртае на поўдзень у Дняпро й нясе далей свае хвалі ў Чорнае мора. Там пад малітоўным паглядам сьв. Кірылы Тураўскага ляжыць тысячагадовы Тураў. Гэта – сьвятая зямля, дзе спачываюць продкі, дзе з пакаленьня ў пакаленьне перадаваліся славянскія гены, закладаліся маральныя асновы чалавечага быту з хрысьціянскімі прынцыпамі, сямейнай салідарнасьцю, добрасуседзкімі адносінамі й чалавечай дабрынёй.

Ствол Дрэва й ніжнія галіны перажылі камуністычную тыранію: гвалт над людзкой натурай; грабеж уласнасьці, набытай цяжкой працай; прымус, што супярэчыў традыцыйнаму ўкладу жыцьця й хрысьціянскім запаветам любові й спагады да бліжняга. Другая сусьветная вайна, пагроза зьнішчэньня агнём паленых вёсак, голад і рабская праца ў гітлераўскай няволі пакінулі глыбокія шрамы на кары ствала й ніжніх галін. І толькі воляю Ўсявышняга Дрэва перажыло ваенныя ліхалецьце й дабралася да новай Абяцанай Зямлі.

На ўрадлівай амэрыканскай глебе пад небам свабоды й чалавечай спагадлівасьці распасьцерліся верхнія маладыя галіны, пераняўшы ў спадчыну духовыя каштоўнасьці продкаў, правілы дабрыні й спагады, спалучаючы іх з павевамі новага быту й шырэйшымі магчымасьцямі.

Крона Дрэва высіццца цяпер у блакітным небе, калышацца сьвежымі галінкамі, а сочнае лісьце зеляннее пад павевамі вятроў свабоды й шэпча спадзеўную байку пра заманлівую будучыню.

***Янка Запруднік***

# Сэнс існасьці:

## Менск — Нью-Йорк — Менск — Нью-Йорк

У выніку знаёмства з ласкава мне перададзенай кніжкай Юлі Андрусышын "Забыцьцю не адданае" (Мінск: "Лімарыус", 2015) узнікла не тое, што рэцэнзія, а колькі слоў успамінаў і роздуму.

Першая мая асабістая сустрэча са сп. Юляй Андрусышын (саваё прозвішча яна піша нязменна паводле ангельскага ладу) адбылася 6 кастрычніка 1989 года на літаратурным вечары ў Менску, у Доме літаратара. Тады на канцэрце выступаў яе сын Багдан (Данчык), вядомы сьпявак і адначасова аўтар двух артыкулаў у кнізе "Дзесяць дзён у сьнежні (Нататкі 1996 году)" і "На сваім 90-годзьдзі мая Бабця танчыла!" Бабця, Яніна Кахановўская, таксама прадстаўлена ў кнізе сваёй "Біяграфіяй", двума артыкуламі і некалькімі лістамі да сваячкі Марыі Шабуні-Чапялёвай і пісьменьніцы Натальлі Арсеньневай. Мая ж прысутнасьць на вечары і наша знаёмства засьведчана радком у "Паказьніку асобаў" кнігі (добра, калі не толькі манаграфіі, але і ўспаміны, дзёньнікі забясьпечваюцца такімі дапаможнікамі).

Другая наша сустрэча прайшла восеньню наступнага, 1990-га года ў Нью-Йорку, калі там я быў у складзе беларускай дэлегацыі на сорак пятай сэсіі Генэральнай Асамблеі ААН, а ў свабодны час займаўся амаль безвыніковым пошукам сьлядоў аднаго з варыянтаў зьнікненьня з Магілёва Крыжа Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. У нядзелю 23 верасьня мы з Антонам Шукялайцам, у фашысцкую акупацыю дырэктарам Менскага гісторыка-краязнаўчага музэя, а потым кіраўніком Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, наведалі вельмі паўчальнае набажэнства ва Ўнітарнай сьвятыні на 35-й стрыт, а адтуль па запрашэньні паехалі на абед да спадарства Андрусышынаў (у множным ліку прозвішча ўжо зьмяняецца). Там сустрэліся з Данчыкам, сакратаром беластоцкай "Нівы" Адай Чачугаю, іншымі гасьцямі ўжо з амэрыканскай "глыбінкі". Кватэра Андрусышыных была для іх нечым сярэднім паміж галоўным штабам і бацькоўскім домам, а гаспадыня і яе муж Паўло (родам з Украіны) стараліся, каб усім было добра і каб усе пагля-дзелі славутасьці Нью-Ёрка.

Вось чаму пад вечар мы ўсе адправіліся ў цэнтр горада. Па дарозе агледзелі помнік першаму прэзідэнту ЗША Джорджу Вашынгтону, які тут прыняў прысягу, а таксама будынак славутай біржы, дзе фармуецца фінансавая палітыка сьвету, і вуліцу Уол-стрыт, якая тады ў нас асацыявалася толькі са злом. І ўрэшце, выстаяўшы доўгую чаргу, узьняліся на 107 паверх аднаго са стройных і вытанчаных блізнятхмарачосаў Сусветнага гандлёвага цэнтра. Цямнела ўжо. Машыны ўнізе здаваліся дробнымі жучкамі, якія павольна паўзлі з чырвоным сьвятлом ззаду. Ад невялікага ветру будынак прыкметна хістаўся. Я незадаволена ўсклікнуў: ну навошта чалавеку так высока адрывацца ад зямлі! Са мной не ўсе пагадзіліся: маўляў, тут выявілася моц чалавечага розуму. Але сп. Юля, мне здалося, задумалася. Гэтая задуменнасьць прыгадалася мне праз колькі часу, калі, знаходзячыся ў Варшаве, уключыў у гатэлі тэлевізар і няўцямна глядзеў на нямыя паўтарэньні, як у той жа будынак ўразаецца нейкі самалёт. І ніякіх тлумачэньняў... Толькі вечарам даведаўся, што гэта быў жудасны тэрарыстычны ўчынак.

Наступная наша сустрэча адбылася ў 1993 годзе, у час правядзеньня Першага з'езду беларусаў сьвету. Праходзіў ён у оперным тэатры, вельмі тлумна, і я не памятаю, ці ўдалося нам дадзжэй пагаварыць.

Зьмешчаныя ў кнізе нататкі Багдана Андрусышына прыгадалі мне яшчэ яго канцэрт у сутарэннай залі менскага Чырвонага касьцёла, авацыі пасля кожнай песьні і асабліва ў канцы выступленьня. Але праціснуцца тады да яго не было магчымасьці.

Аднак пара вярнуцца да зьместу кнігі "Забыцьцю не адданае". Пасля "Прадмовы" Багдана Андрусышына ўсьлед ідуць "Успаміны" яго маці, якая нарадзілася ў Мінску на вуліцы Садовай над берагамі Свіслачы 19 чэрвеня 1932 года (значыць, мы амаль равесьнікі) прыкладна каля таго месца, дзе раней стаяла лазня Плаўскага, а цяпер Музэй Янкі Купалы. Раздзелам "Дзяцінства" і "Вайна" папярэднічае "Фрагмэнт карты, намаляванай па памяці Юляй Андрусышын, "хатка па-над рэчкаю" яе дзяцінства".

Далей даволі падрабязна гаворыцца пра цяжкасьці і жахі нацысцкай акупацыі. "Вяртаюся да апісаньня падзеяў у Менску, калі немцы ўжо асталяваліся ў горадзе, гаворыцца ў раздзеле "Вайна". Думаю, што дзесьці на восьмы дзень яны павесілі шмат людзей у розных месцах. Вешалі па два мужчыны, а пасярэдзіне жанчыну. Быў каля іх прыбіты надпіс: "Мы партызаны, стралялі па нямецкіх салдатах". З кожным днём пагоршвалася харчаваньне: каб набыць муку, даводзілася прадаваць хатнія рэчы. Дзеці вымушаны былі рабіць і прадаваць букецікі агародных кветак. Праўда, часам старэйшыя ўзростам немцы спынялі падлеткаў на вуліцы і давалі ім крыху цукерак.

А потым быў хаатычны выезд у Нямеччыну, вучоба ў Беларускай гімназіі, што пачала працаваць у Рэгенсбургу, ужо ў амэрыканскай зоне, адплыцьцё на караблі ў Нью-Йорк, шлюб там з украінцам Паўлам Андрусышыным у грэка-каталіцкай царкве. У 1955 годзе нарадзіўся іх першы сын Георгій, а ў 1958 годзе Багдан (Данчык), які потым "у Нью-ёркскім універсітэце студыяваў чатыры гады журналізм".

Цікава, што ад летняй "ньюёркаўскай гарачыні" сям'я ратавалася ў гарах, на ферме Joe Kerry "Родны кут". Аказалася, што пад гэтым амерыканізаваным прозвішчам хаваецца стары эмігрант па прозвішчу Кеўра, які прыбыў у Амерыку з Вільні ў 1906 годзе. Размаўляў ён, піша мемуарыстка, толькі па-беларуску і па-ангельску. Другой мовы славянскай ён ня ведаў. Казаў, што ён ліцьвін, а назву беларус ніколі не чуў". Дарэчы, гэты факт пацьвярджае ўсё яшчэ спрэчную думку, што доўгі час, з канца XVIII да пачатку XX стагоддзя, палітонім "ліцьвін" замяняў этнонім "беларус" або пазьней словы "тутэйшы" і "краёвец"; сённяшніх жа літоўцаў спачатку называлі жмудзінамі, а потым літоўцамі. "Ці трэба даказваць, – усклікае гаспадарыня Андрусышын пасля роздуму, – што тагачасныя ліцьвіны ня ёсьць сёньняшнімі летувісамі або палякамі?"

Жывучы ў Амерыцы і сумуючы па Мінску, Юля Андрусышын, мяркуючы па яе ўспамінах, увесь час збірала фатаграфіі, рэчы і звесткі, якія датычыліся чатырох бліжэйшых шляхецка-дваранскіх галін (Луцкевічы, Песлякі, Шабуні і Каралёвы) свайго разгалінаванага роду. Таму, прыбыўшы ў 1989 годзе ў Менск, яна адразу ж пачала шукаць сабе спадарожнікаў для паездак на радзімы сваіх і мужавых продкаў па Палаччыну, у Гародню, Вільню, Львоў. Адны х іх аказаліся каталікамі, іншыя праваслаўнымі або ўніятамі, усе прывабівалі да сябе. Спачатку такое разнавер'е хвалявала Юлю, а потым прышла да высновы: "Ды й якая розьніца?" Галоўнае – быць хрысціянкай.

І галоўнае тое, што ўвесь час знаходжаньня на Радзіме, з 9 верасня да 31 кастрычніка 1989 года і з 17 чэрвеня да 30 ліпеня 1993 года, спадарыня Юля скрупулёзна і ўдумліва вяла дзёньнік, дзе найперш апісвала добрае і перспектыўнае. І да рашэньня прышла вонкава парадаксальнага, але на самай справе глыбокага: "Чым больш я разьбіраю нашыя сямейныя справы, тым часьцей прыходжу да высновы, што я мела вельмі добрую сям'ю: і вялікую, і разумную, і цікавую. Часам думаю, ці ёсьць з маіх старых знаёмых нехта, з кім я хацела б замяніцца перажытым. Пакуль што не знайшла, дзякуй Богу".

У заключэньне хачу падкрэсліць, што 27 уклееных у кнігу лістоў (54 старонкі!) са скрупулёзна сабранымі аўтаркай родавымі фотаздымкамі маюць не меншую каштоўнасьць, чым сам тэкст. А ён сьведчыць аб наяўнасьці ў Юлі Андрусышын калі не пісьменніцкага, то прынамсі эсэісцкага і летапісчага таленту. Гэта ЯЕ КНІГА ЖЫЦЦЯ. І яна "забыцьцю" сапраўды не будзе "аддадзена".

***Адам Мальдзіс,***
*Менск*

# Памяці Аляксея Караля – публіцыста і беларускага патрыёта

Беларускія чытачы і супрацоўнікі газэты «Новы Час» з болем і смуткам даведаліся пра заўчасную сьмерць выдатнага дзеяча нацыянальнага дэмакратычнага руху, галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Новы Час» А.С.Караля, які праходзіў анкалягічнае лячэньне ў Сігапуры, дзе зараз пражывае ягоны сын. Кожнага з тых, хто ведаў гэтага чалавека, Аляксей Сцяпанавіч уражваў сваёй інтэлігентнасцю, шырокім кругаглядам, ненапускной беларускасцю і прыхільнасцю да дэмакратычных каштоўнасцяў. Карацей, бачылі ў гэтым чалавеку сапраўднага патрыёта, Беларуса, асобу з вялікай літары.



Газэта «Новы Час» паўстала ў сакавіку 2002 года пры падтрымцы Менскай гарадзкой аргінізацыі ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Тагачасным рэдактарам яе стаў гісторык і пісьменнік Кастусь Тарасаў. На жаль, К.Тарасаў памёр у 2010 годзе і на пасаду галоўнага рэдактара штотыднёвіка быў прызначаны вядомы гісторык і публіцыст Аляксей Кароль.

З Аляксеем Сцяпанавічам мне давялося пазнаёміцца ў той час, калі ў 2010 ён узначаліў рэдакцыю. Тады ўжо шмат гадоў я быў пазаштатным музычным аглядальнікам «Новага часу» і спадзяваўся на працяг супрацы з газэтай. Так яно і выйшла, бо А.С.Кароль імкнуўся да таго, каб маладыя супрацоўнікі рэдакцыі змаглі разам са сталымі журналістамі ўзьняцца да новых публіцыстычных вяршыняў.

Калі з друку пачалі выходзіць першыя нумары аднаўленага «Новага Часу», адразу было заўважна тое, колькі сіл аддаюць супрацоўнікі рэдакцыі пад кіраўніцтвам новага галоўнага рэдактара паляпшэньню ўзроўню газэты. На яе старонках зьявіліся ўнікальныя гістарычныя дасьледаваньні, цудоўныя аналітычныя матэрыялы, аўтарам якіх, у асноўным, зьяўляўся Аляксей Кароль. Ды і аналітыка, тэматычныя матэрыялы іншых аўтараў былі высокага публіцыстычнага ўзроўню, планку якога так высока ўзьняў галоўны рэдактар.

Таксама, было радасна, што А.Кароль не адмовіўся ад напрацовак ранейшага рэдактра, а пачаў удасканальваць лепшыя здабыткі свайго папярэдніка. Гэта адбілася і на якасьці вёрсткі, якая стала ўзорнай для незалежнай газэты, і на якасьці друку, і на карэктарскай працы, а таксама, на аператыўнасьці сайта штотыднёвіка. Агулам жа за гады, калі рэдактарам «Новага Часу» працаваў Аляксей Кароль, выданне ператварылася ў сапраўдны, эўрапейскага кшталту, штотыднёвік, які арыентаваў сваіх чытачоў на нацыянальныя і дэмакратычныя каштоўнасці. Канешне, у гэтым посьпеху бачыліся высілкі і прафесіяналізм усіх штатных супрацоўнікаў і аўтарскага калектыву «Новага Часу», які на працягу ўсяго існаваньня выданьня гуртаваў галоўны рэдактар.

Асабіста я адчуў яго моцную маральную падтрымку, калі раптоўна дала пра сябе знаць цяжкая хвароба. Тады я сам даведаўся пра бяду, якая апанавала і Аляксея Сцяпанавіча. Але яго стаіцызм, падтрымка перадаваліся мне пад час лячэньня, і пасля аперацый, якія я пераносіў з аглядкай на яго досьвед. Таму я лічу, што паляпшэньню стану майго здароўя я абавязаны не толькі сваім родным, але і мудраму слову і ўвазе Аляксея Сцяпанавіча, які ўвёсь час майго лекаваньня быў са мной на сувязі.

Кажуць, што сапраўдны кароль не носіць карону. І пра галоўнага рэдактара «Новага Часу» А. Караля можна сказаць, што яму не патрэбна была сымбалічная карона. Ён падцьвярджаў сваё прозьвішча іншымі «каралеўскімі» якасьцямі. І перш за ўсё, мудрасьцю і самаахвярнасьцю кіраўніка, клопатам пра сваіх «падданых» -- супрацоўніках рэдакцыі і аўтараў, разумнаму падыходу да разьвіцьця незалежнага выданьня. Мо таму штотыднёвік «Новы Час», не гледзячы на цяжкасьці, правакацыі і сабатаж чыноўнікаў, працягвае выходзіць і радаваць сваіх чытачоў цікавымі і карыснымі публікацыямі. І гэта надалей застанецца яму лепшым помнікам. Сьветлая памяць, Вам, незабыўны Аляксей Сцяпанавіч...

***Анатоль Мяльгуй***



***Вашынгтонскі гурток БАЗА віншуе сяброўку Натальлю Рабаву-Дэніэлс з нарадзінамі сына Янкі. Маленькаму беларусу дасылаем нашы цёплыя прывітаньні напачатку жыцьцёвага шляху:***

*Янка!*
*Ведаюць рыбкі, Жукі і алень:*
*Сёньня сьвяточны, Радасны дзень!*
*Шчасця, здароўя, Цікавых прыгод*
*Зычаць сабака, Вавёрка і кот.*
*Зоркі, аблокі, Сонца і людзі*
*Шчыра віншуюць:*
*Хай добра ўсё будзе!*



## Дзьве папраўкі памылак, допушчаных у газэце "Беларус" № 615

**1.** У артыкуле "100 гадоў Антону Шукелойцу" было не зусім дакладна напісана, што структура БАЗА ў Вашынгтоне была створана па прапанове сп. Шукелойца. Сп. Шукелойц прызначыў Алесю Кіпель прадстаўніцаю БАЗА ў Вашынгтоне, але не падтрымліваў думку аб стварэньні там структурнай адзінкі. Гурток БАЗА ў Вашынгтоне быў закладзены ў 2007 годзе, калі страшынём Галоўнай управы быў Вячка Станкевіч.

**2.** У Каляндары памятных датаў пазначана недакладная дата заснаваньня "Вялікалітоўскага (Беларускага) фонду імя Льва Сапегі". Фонд быў заснаваны 24 ліпеня 1974 году д-рам Янкам Станкевічам.

***Вячка Станкевіч***

## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| **Сільвестр Будкевіч** | **анг. фунт 30** |
| **Кацярыны і Яраслаў Вініцкія:** | |
| *(замест кветак на магілу Ірэн Цупрык)* | **$ 100** |
| *(сьветлай памяці а. Аляксандра Надсана)* | **$ 200** |
| **Сьвятлана Лукашэня** | **$ 50** |
| **Аліна Макей** | **$ 50** |
| **Вера Пруські** | **$ 75** |
| **Станлі Шабовіч** | **$100** |

**Шчырая падзяка ўсім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**
Адказны рэдактар
**Ганна СУРМАЧ**
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
**Таня КРАСОЎСКАЯ**
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
**Галіна ПАДЛЕСКАЯ**
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
**Натальля СТАРАВОЙТАВА**

Адрас Рэдакцыі:
**BIELARUS Newspaper**
**166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, NY 11432, USA**
Паштовы адрас:
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025 USA**
Электронны адрас (E-mail):
**bielarus@bazahq.org**
Кампутарная вёрстка
**Mikalai Media Productions**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*
*Грашовыя чэкі выпісваць на імя:*
***BIELARUS Newspaper***
*і дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.*
***Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.***